*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№12 ліпень 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

# УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД АДБЫЎСЯ

## АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,

- *усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі;*
  *напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;*
- *грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,*

**ЗАЯЎЛЯЕМ :**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная , мірная і без'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца здабыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны альбо скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай ёй стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі ўлад, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краін свету. Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць -- гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрывае шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда,

***СВЕДЧЫМ***

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі – бел-чырвона-белым сцягам і гербам Пагоня;

***АБВЯШЧАЕМ***

дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

***ПРЫЗНАЁМ***

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

***ЗАКЛІКАЕМ***

усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэі Акта Незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны;

парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !***

*Прынята Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Мінску*

---

29 ліпеня ў Мінску прайшоў Усебеларускі з'езд за Незалежнасць. У рабоце з'езда прынялі ўдзел 1350 дэлегатаў з усіх куткоў Беларусі. Былі прадстаўлены ўсе гарады і 102 раёны са 117, у тым ліку і наш Бешанковіцкі раён.

На з'ездзе прысутнічалі слынныя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, вучоныя, відныя палітыкі : Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Ніл Гілевіч, Станіслаў Шушкевіч, Міхаіл Чыгір, Юрый Хашчавацкі, Мечыслаў Грыб, Анатоль Лябедзька і многія іншыя занепакоеныя лёсам Бацькаўшчыны асобы. Сярод гасцей - дыпламаты, сябры Рады БНР. Было вельмі шмат журналістаў, што сведчыць аб вялікім значэнні падзеі.

У адрас з'езда прыйшло шмат прывітанняў, у тым ліку ад прэзідэнта Чэхаславакіі Вацлава Гавела, старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, пісьменніка Васіля Быкава і іншых.

Вялікая зала была перапоўнена, давялося уключыць трансляцыю на фае, дзе размясцілася значная частка дэлегатаў. У руках многіх бел-чырвона-белыя сцяжкі, над галовамі – лозунгі: "Наша Радзіма – Беларусь. Яе свабода – наша свабода", "Мы – гаспадары на сваёй зямлі" і іншыя.

*Працяг на другой старонцы*

# УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД АДБЫЎСЯ

***УСЕБЕЛАРУСКАМУ З'ЕЗДУ***

*Беларусь, як брыльянт у пярсцёнку Еўропы.*
*Мы болей не хлопы і не халопы*

**Нам Богам дадзенае права**
**Радзімы нашай дзецьмі звацца.**
**І наша даўняя дзяржава**
**Дзяржавай мусіць заставацца.**

Ні перад кім ніколі продкі
Не гнулі гордыя галовы.
У паднявольных век кароткі.
У пастцы толькі сыр дармовы.

Як сэрца біцца перастане
Матулі нашай, - нас не стане.
І толькі застануцца здані
І напамін аб цёмным змане.

**Не варта вабіцца дарамі,**
**Што абяцаюць у прымусе.**
**Дык будзем жа гаспадарамі**
**У цёплай хаце Беларусі.**

***КАЛІ СПРАЎЛЯЮЦЦА ПАМІНКІ***

Калі спраўляюцца памінкі па Радзіме
Прадажнікамі анівартымі зьнявагі,
Віжы сапселыя з ваўкамі маладымі
Сваю зайдросць і злосць кладуць на вагі.

Маўчыць насельніцтва – насеньніцтва, з якога
Калісьці людзі змогуць вырасці магчыма
Да злога блізка і далёка так да Бога.
А ўрэшце кормнікам і непатрэбная Радзіма.

Абы ім перад чужаніцай падаць ніца
Законы літасьціва не забаранялі.
І перад сконам не падумаюць вініцца,
Што ў мерцьвякоў і ў ненароджаных
Радзіму ўкралі.

**Генадзь Бураўкін**



Уступным словам з'езд адкрыў адзін з яго ініцыятараў і арганізатараў – Генадзь Бураўкін. Ён выказаў спадзяванне, што дзень з'ёзду стане адным з самых важных падзей не толькі ў асабістым лёсе кожнага з дэлегатаў, але і ў гісторыі Беларусі. Бо сёння "пад грукат салютаў у гонар славянскай еднасці пагрозліва заносіцца бязлітасны меч над маладою галавой яшчэ не ўзмужнелай беларускай дзяржаўнасці... Галоўнае пытанне: што ж рэальна прапануецца двум брацкім народам пад фармулёўкай адзінай саюзнай дзяржавы. Калі гэта саюз, дык дзяржаў павінна быць не меней за дзве. А калі гэта адна дзяржава, дык прычым тут саюз?...Давайце скажам шчыра і проста: рыхтуецца ўваходжанне Беларусі ў Расію, паглынанне нашай лясной ды азёрнай старонкі неабдымнымі таёжнымі і стэпавымі прасторамі вялікай суседкі. І робіцца гэта прадумана і планамерна не адзін год...Вельмі хачу спадзявацца, што XXI стагоддзе будзе стагоддзем вольнай, абноўленай, самастойнай Беларусі. З гэтымі словамі, з гэтай марай, з гэтай верай я і аб'яўляю Усебеларускі з'езд адкрытым". Зала адгукнулася воплескамі. Такі пачатак натхніў прысутных.

Потым выступалі Р. Гарэцкі, Н. Гілевіч, М. Чыгір, П. Казлоўскі, А. Кароль, Р. Барадулін і іншыя. Усе выступленні былі прасякнуты трывогай за лёс Беларусі. Шмат і грунтоўна казалі пра сённяшні цяжкі для беларускасці час., пра тое, што ўлады не дапамагаюць ратаваць мову, што на ўскрайку прагрэсу апынулася эканоміка. Беларусь, безумоўна, мае ўсе падставы стаць багатай квітнеючай краінай. Для гэтага неабходны эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя рэформы ва ўмовах дэмакратызацыі і свабоды СМІ, нармальныя міжнародныя зносіны з усімі краінамі свету, значныя інвестыцыі. Найбольшае ўражанне зрабілі сваімі выступамі майстры слова Н. Гілевіч і Р. Барадулін. Вершы, якія прачытаў Рыгор Барадулін мы друкуем ,а вось невялікі, на слых, урывак з яго выступлення: "На Беларусі, як і ў любым добрым доме, не зачыняюцца дзверы перад суседзямі і гасцямі. Але нармальны гаспадар ніколі не прадасць свой дом, каб стаць кватарантам або начлежнікам...З усіх грахоў самы цяжкі – здрада Радзіме. **Скажам жа радзімапрадаўцам: наш дом не прадаецца!".** Немагчыма расказаць пра ўсе выступленні. Але амаль кожнае заканчвалася гарачым і пераканаым заклікам: "Жыве Беларусь!", на які зала адгукалася воплескамі і гучным: "Жыве!".

Абмеркаванне праекта Акта Незалежнасці ішло бурна, раўнадушных і абыякавых у зале не было. Кожнаму хацелася, каб тэкст атрымаўся як мага больш дасканалы і пераканаўчы, каб яго пачулі і зразумелі і грамадзяне нашай краіны, і ва ўсім свеце. Спыніліся на тым, што неззалежнасць – здабытак не толькі сённяшніх пакаленняў беларусаў, а і мінулых, а галоўнае, будучых, і таму нікому не дадзена распараджацца гэтай каштоўнасцю, як таварам. Нарэшце адбылося галасаванне і зала доўга не магла супакоіцца, усведамляючы гістарычную значнасць моманту: прыняты Акт Незалежнасці безумоўна стане ў адзін рад са Статутнай граматай аб незалежнасці 1918 года і Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь 1990 года. З'езд заклікаў усіх грамадзян Беларусі згуртавацца і бараніць незалежнасць.

Пакладзена яшчэ адна цагліна ў падмурак беларускай дзяржаўнасці. Але наперадзе вельмі цяжкі і доўгі шлях "да Беларусі". Трэба прыкласці шмат намаганняў, каб кожны зразумеў важнасць і вартасць незалежнасці. Усебеларускі з'езд і прыняты ім Акт Незалежнасці даюць шанец, магчыма апошні, каб захаваць Бацькаўшчыну. Выкарыстаем ?

***Г. Станкевіч, В. Гракун, дэлегаты Усебеларускага з'езда***

# ГІСТОРЫЯ АПТЭКІ



Калектыў аптэкі

## ПАДПІСКА НА "НАША СЛОВА"

У другім квартале на 17 школ раёна была афармлена бясплатная падпіска на рэспублканскую газету "Таварыства беларускай мовы" – "Наша слова". Большасць школьных бібліятэк атрымлівалі гэту газету, рабілі падшыўку. Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, выкладчыкі гісторыі і геаграфіі роднага краю, настаўнікі пачатковых класаў мелі магчымасць пазнаёміцца з выданннем і карыстацца ім. На жаль, не ўсе скарысталі такую магчымасць. Некаторыя не ведалі, што на школу ідзе такая газета, напэўна ў школьнай бібліятэцы яны рэдкія госці. Некаторым беларускім філолагам такая газета і не патрэбна, бо нават па тэлефоне яны адказвалі на рускай мове. Што ж, гэта і не дзіўна ў раёне, нядаўні кіраўнік якога прылюдна заявіў: "Мне беларуская "мова" не нужна, я ёю не пользовался и пользоваться не собираюсь" .Зямля адмовілася насіць гэтага чалавека, але паслядоўнікаў справы Мураўёва-Вешальніка ў нас яшчэ вельмі шмат. Як вынік іх намаганняў - падпісалася на газету ТБМ "Наша слова" на 3 квартал толькі тры чалавекі, негледзячы на тое, што была зроблена азнаямленчая падпіска і кошт газеты - усяго 147 рублёў на месяц.

***В. Гракун,***
*Кіраўнік Бешанковіцкай суполкі ТБМ*

Мы ўсе больш-менш ведаем сусветную гісторыю, гісторыю сваёй краіны, нават гісторыю КПСС. А вось пра развіццё і стаўленне свайго роду, сваёй вёскі, свайго прадпрыемства ведаюць і жадаюць ведаць нямногія. Тым больш прыемна было сустрэць такіх зацікаўленых і нераўнадушных грамадзян у Бешанковіцкай аптэцы. Добрыя спецыялісты ў сваёй справе, яны, акрамя таго, ствараюць гісторыю сваёй установы, цікавяцца людзьмі, якія раней мацавалі яе сваёй працай. збіраюць і занатоўваюць па драбніцах звесткі, якія захавалі даќументы і памяць старажылаў. Прычым звесткі не толькі пра Бешанковіцкую аптэку, але і пра іншыя аптэкі раёна: Ульскую, Бачэйкаўскую, Астровенскую.

Менавіта з іх запісаў я даведалася, што першая аптэка ў Уле створана ў 1894 годзе, гэта была прыватная аптэка местачкоўца Стэнцэля. Першая дзяржаўная аптэка ў Бешанковічах была адчынена ў пачатку 30-х гадоў. Яна знаходзілася на месцы цяперашняга рэстарана. Першым загадчыкам быў яўрэй Цэмахман, які з сям'ёй жыў у тым жа будынку. У час вайны дом быў знішчаны, невядомы і лёс загадчыка. Пасля вайна аптэка размяшчалася ў прыватным доме па вуліцы Урыцкага. Толькі ў 1954 годзе было пабудавана уласнае памяшканне на вуліцы Інтэрнацыянальнай.

Аптэчнай справай займалася шмат адданых людзей, некаторыя адпрацавалі ў ёй усё жыццё. Сорак чатыры гады працавала ў аптэцы з 1945 па 1997 год Кавалеўская Вольга Ананьеўна, 42 гады – Дзячук Іна Іванаўна. Больш чым па 30 гадоў працавалі Козел Н. К., Баранава С. Г., Баранава Л. Г. 25 гадоў працаваў загадчыкам аптэкі Геут Іосіф Андрэевіч, зараз па ягоным шляху пайшоў сын Юрый, які вучыцца на фармацэўта.

Цяпер аптэка з'яўляецца філіялам Віцебскага прадпрыемства "Фармацэя". Тут працуе зладжаны дружны калектыў, на чале з Наталляй Мікалаеўнай Задора. Аптэка забяспечвае медыцынскія установы раёна і насельніцтва ўсім неабходным. Шмат намаганняў прыкладаюць, каб мець дастаткова разнастайных прэпаратаў, фармацэўты Багдановіч Ірына Генадзеўна, Сакоўская Людміла Паўлаўна. Прыгатаваннем індывідуальных лекаў па рэцэптах старанна і ўважліва займаецца Бацяноўская Надзея Іванаўна. Аптэкай штогод нарыхтоўваецца каля 400 кілаграмаў лексыравіны, супрацоўнікі самі выязджаюць на збор лекавых раслін у месцы нарыхтоўкі і прымаюць іх ад насельніцтва. Падтрымліваецца цесная сувязь са школамі раёна, школьнікі таксама збіраюць неабходную лексыравіну. У аптэцы лекавыя расліны здабняюць і змяшчаюць у зручныя фасовачныя пакеты. Дарэчы, паліцы нашай аптэкі заўсёды маюць шмат розных прэпаратаў, гэта адзначаюць наведвальнікі з іншых гарадоў.

***В. Гракун***

# РОЛЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Вытокі беларускай мовы сягаюць у дахрысціянскі перыяд. Славяне з'явіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў VII – VIII стагоддзях. У выніку цесных кантактаў з мясцовым балцкім насельніцтвам стварыўся новы еўрапейскі этнас са сваёй мовай і самабытнай культурай.

Крывічы стварылі дзве вялікія дзяржавы – Полацкую і Смаленскую, а пазней і Пскоўскую. Менавіта ў Полацку быў збудаваны першы на нашай зямлі велічны мураваны храм – Полацкая Сафія. Гэта быў не толькі храм, але і першая бібліятэка, месца, дзе знаходзіліся старабеларуская літаратура з яе першым узорам – Полацкім летапісам. Пашыралася пісьмовасць на аснове "кірыліцы", з якой створан наш сучасны алфавіт.

Эстафету Полацка пераняў старажытны Тураў, а потым і Смаленск. Плённа працуюць два вялікія асветнікі – Еўфрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі. Нараджаецца літаратурная беларуская мова, пры манастырах працуюць школы, ствараюцца рукапісныя кнігі.

Беларускія землі, якія амаль не зведалі мангола-татарскай навалы, захавалі сваю высокую культуру і мову, што неўзабаве запанавалі ў новай беларускай дзяржаве – Вялікім Княстве Літоўскім. Новая сталіца Беларусі – Наваградак – быў адным з самых багатых і культурных гарадоў Еўропы.

У другой палове XIII стагоддзя існавала дзве краіны, дзе старажытнабеларуская мова была дзяржаўнай : Вялікае Княства Літоўскае і Вялікае Княства Смаленскае. У ВКЛ беларуская мова становіцца мовай міждзяржаўных і ўнутраных зносін. Яе ведаюць і насяляючыя Беларусь літоўцы, немцы, яўрэі, а пазней палякі і татары.

У XV стагоддзі, з уваходам у ВКЛ Смаленскай дзяржавы, там ствараецца беларускі летапіс, Аршанскае Евангелле, Псалтыр, апісанні вандровак манахаў у Палесціну і Візантыю. У Смаленску створаны і знакаміты Радзівілаўскі Летапіс, аздоблены больш чым 600 малюнкамі.

З тых часоў паходзяць несмяротныя творы Францыска Скарыны. У 1588 годзе Леў Сапега ў Статуце ВКЛ афіцыйна абвясціў беларускую мову дзяржаўнай. Па-беларуску гавораць вёскі і мястэчкі, пішуцца магістрацкія кнігі і службовыя паперы. Па-беларуску працуе уніяцкая царква.

Аглушальны ўдар беларускай мове і культуры наносіць жахлівая вайна з Маскоўскай дзяржавай 1654-1667 гадоў, калі фізічна знішчаецца або выводзіцца ў палон беларуская інтэлігенцыя, духавенства і шляхта, а таксама рамесленнікі, якія добра ўмелі чытаць і пісаць. Ацалелае неадукаванае сялянства не змагло захаваць беларускую літаратурную мову, яе месца паступова займае польская. Пасля захопу беларускіх земляў Расіяй паланізацыя змяняецца татальнай русіфікацыяй, беларуская мова пад забаронай.

Але ў XX стагоддзі, нягледзячы на шматлікія войны, рэвалюцыі, рэпрэсіі, пачынаецца новая хваля адраджэння і развіцця беларускай мовы. У 1989 годзе створана грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны", якая аб'ядноўвае змагароў за захаванне і адраджэнне беларускай мовы. Зараз структуры ТБМ працуюць у 70 населеных пунктах Беларусі, яны маюць больш 7000 сяброў і каля 10000 прыхільнікаў.

Яскравай перамогай беларускай мовы можна лічыць перапіс насельніцтва 1999 года, які зафіксаваў павелічэнне колькасці беларусаў. Большая частка насельніцтва – 86% - назвалі сваёй роднай мовай беларускую. У сённяшняй сітуацыі, калі ўлады метадычна знішчаюць усё беларускае, гэта шмат значыць. Тым больш, што 3 700 000 грамадзян назвалі беларускую мову, як мову на якой яны размаўляюць у паўсядзённым жыцці.

***Працяг на 6 старонцы***

# «ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ»

Гэтымі словамі Уладзіміра Караткевіча назвалі сваю новую праграму самадзейныя артысты эстраднай студыі РДК пад кіраўніцтвам Наталлі Эдуардаўны Бондар. Першымі гледачамі сталі ўсе, хто прыйшоў вечарам 2 ліпеня на стадыён у Бешанковічах.

Праграма цалкам беларуская, складзеная з народных і сучасных песень і прысвечаная Беларусі. Сцэнарый напісала Наталля Бондар, якая і рыхтавала праграму. Яна выкарыстала ўсе свае прафесійныя навыкі і талент, удыхнула ў праграму часцінку сваёй душы, і таму не засталіся раўнадушнымі і гледачы, і выканаўцы, - варухнула яна генетычную памяць, напомніла, што «на Беларусі – беларусы жывуць».

Пачала праграму салістка, удзельніца некалькіх рэспубліканскіх конкурсаў эстраднай песні Людміла Падалец у суправаджэнні харэаграфічнай групы песняй Валерыя Іванова на словы Уладзіміра Някляева «Радзіма». Дзяўчынка выйшла ўся чорным адзенні, якое сімвалізавала журбу і смутак па ў змагарах за свабоду і незалежнасць Радзімы. Але напрыканцы песні чоная накрыўка скінута і пад ёй аказалася сукенка белага колеру – сімвал надзеі і веры. Гучыць верш Алеся Бабаеда, першы радок якога мог бы стаць другой назвай праграмы, настолькі вялікі ў ім сэнс: «***А Беларусь не памірала, яна жыла і будзе жыць***, хоць і не раз яе вандалы распяць хацелі на крыжы. Ды Беларусі воблік светлы плыве праз дні і праз вякі: дзяўчынка ў лузе сярод кветак з вачыма, быццам васількі».

Далей вядучыя Наталля Бондар і Ілона Міхайлоўская адзін за другім аб'яўляюць наступныя нумары. Дарэчы, Ілона – ўдзельніца і дыпламантка тэлефестываля «Усе мы родам з дзяцінства» у намінацыі «Вядучы». Гучаць цудоўныя беларускія песні ў выкананні Юлі Селіванавай, Насці Суворавай, Вольгі Нічыпаравай, Яны Казлоўскай, Іллі Бондара і іншых. Прыемна адзначыць, што ў праграме выкарыстана творчасць мясцовых аўтараў. Прагучал некалькі песень на словы мясцовага паэта Уладзіміра Асокіна, музыку да якіх напісала Наталля Бондар, якія выконвалі Вольга Хрыпценка і Андрэй Карбоўскі. Спадабалася прысутным выкананне Вольгай Нічыпаравай і Вольгай Корабавай народных песень «Пасеялі дзеўкі лён» і « Ой, рана на Івана» ў апрацоўцы Н. Бондар. Спявала і сама Наталля, яна выканала ўласную песню на словы Анатоля Вялюгіна «Чаромхавыя халады».

Потым выступіў член Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Бабаед. Ягоныя вершы, прасякнутыя шчырай любоўю да Беларусі і болем за яе, арганічна упляталіся ў агульную накіраванасць праграмы, а яго заклік: «Жыве Беларусь!» быў падхоплены прысутнымі. Пасля фінальнай кампазіцыі і песні «Спадчына» кампазітара Ігара Лучанка на словы Янкі Купалы, якую ўзнёс над прыціхлым наваколлем чысты звонкі голас Андрэя Карбоўскага, разам з апладысментамі доўга яшчэ гучала «Жыве Беларусь!». Жыве, сапраўды жыве, пакуль ёсць у яе такія шчырыя і таленавітыя дзеці.

***В. Гракун***

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА - 590-я УГОДКІ

## ГРУНВАЛЬДСКАЯ БАЛАДА. *1410 год.*

I

Халодны, пахмурны век
Мне ў вочы глядзіць.
Няпроста было там табе, чалавек
І ваяваць і жыць.
Слаўная ж дата з даўніх часоў
Дайшла і да нашых год –
На полі пад Грунвальдам
крыжакоў
Разбіў славянскі народ.

II

Туман ад зямлі да нябёс
Узняўся над полем уранні:
У сечы, вось тут, свой лёс
Вырашаюць славяне.
Куды ні зірнуць – ва ўсе бакі
Рыцараў воблік звярыны.
Сярод славян дваццаць два палкі
З беларусінаў.

III

Дождж не сціхаў з начы,
А на Грунвальдскім полі
Звінелі сякеры й мячы:
- Смерць альбо воля !
Роднага неба блакіт
Ордэнскі крыж закрывае.
Быць на шчыце крыжакі
Ці не жадаюць?..
...Туман не апаў, і дождж не сціх,
Таму на свае шаломы
Славяне, каб лепей бачыць сваіх,
Чаплялі пучкі саломы.

IV

Рыцары клінам зноўку ідуць,
Сцяг свой узняўшы ўгору...
Славяне ж хутчэй жыццё
аддадуць,
Чым Айчыну пакінуць у горы.
Радзее разгубленых рыцараў
строй -
Ордэн тэўтонскі вяне.
На полі, палітым дажджом і
крывёй,
Стаяць толькі славяне.

V

**Міналі гады і міналі вякі,**
**Ды там, на Грунвальдскім полі,**
**Надоўга запомнілі крыжакі:**
**- Смерць альбо воля !**

***Алесь Бабаед***

15 ліпеня 1410 года адбылася лёсавызначальная для славянскіх народаў Грунвальдская бітва. 590 гадоў прайшло з таго дня, калі на ўзгорыстым полі паміж прускімі мястэчкамі Грунвальд і Танэнберг супрацьстаялі Тэўтонскія рыцары і аб'яднанае войска Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы. Да гэтай бітвы рыхтаваліся даўно абодва бакі. Амаль 200 гадоў крыжакі рабілі бясконцыя паходы на землі славянаў. Яны і ў гэтай бітве спадзяваліся на перамогу, нават падрыхтавалі кайданы для палонных і дзесяткі бочак з вінам для святочнай вячэры.

Вялікі Князь Вітаўт і кароль Польшчы Ягайла абмяркоўвалі непазбежнасць вайны з крыжакамі пры папярэдніх сустрэчах у Наваградку і Бярэсці. На вайну былі сабраны ўсе магчымыя сілы абедзьвюх дзяржаваў. Пад Грунвальдам супрацьстаялі з двух бакоў 150 харугваў, не менш за 120 000 чалавек. Крыжакі мелі каля 80 штандараў. Ягайла прывёў 41 польскі полк, 7 украінскіх, 2 чэшскіх. Князь Вітаўт выставіў 40 беларуска-літоўскіх харугваў, палова якіх прыйшлі з беларускіх земляў: Берасцейская, Віцебская, Полацкая, Смаленская, Мсціслаўская, Лідская, Гарадзенская і іншыя. Апроч іх была яшчэ татарская конніца і чэшскія наёмныя.

Рыцары пад кіраўніцтвам Вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена былі добра падрыхтаваныя да бітвы і імкнуліся найхутчэй распачаць яе, нават паслалі Ягайлу і Вітаўту аголеныя мячы - па рыцарскім звычаі папрок у баязлівасці.

Раніцай 15 ліпеня першымі ўступілі ўу бітву беларускія палкі – спачатку лёгкая конніца, потым – цяжкая. Палякі пачалі бой крыху пазней. Князь Вітаўт быў сярод свайго войска і непасрэдна кіраваў ім у сечы. Ягайла знаходзіўся ў тыле і ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва злучанымі сіламі.

Дзве велізарныя арміі сутыкнуліся і лютая сеча закіпела па ўсёй даўжыні фронту. Харугвы Вітаўта пачалі спланаванае адступленне, каб парушыць баявыя парадкі цяжкаўзброенных рыцараў, якія кінуліся ў пагоню і рассеяліся па шырокай мясцовасці, дзе і былі знішчаны. Аругвы Вітаўта вярнуліся і з тылу ўдарылі па групоўцы немцаў, захопленых бітвай з палякамі. Тэўтонскія войскі аказаліся ў акружэнні. Пачаўся разгром ордэнскай арміі, якая к вечару была фактычна знішчана. Знік апошні з магутных ордэнаў, вядомы сваімі крыжовымі паходамі.

На Грунвальдскіх палях 30 харугваў Вялікага княства Літоўскага біліся пад сцягамі з выявай Пагоні. У гэтай сечы былі ваяры з усіх паселішчаў Беларусі. Трацiна з іх засталіся там назаўсёды. Перамога далася дарагой цаной. Але палітычнае значэнне гэтай бітвы вельмі вялікае. Агрэсія нямецкіх рыцараў была спынена. Разгромлены ордэн так і не здолеў узнавіць сваіх сілаў. Вялікае княства Літоўскае атрымала амаль стагоддзе адносна мірнага існавання да пачатку экспансіі Маскоўскай дзяржавы.

Пасля Грунвальду пачалося духоўнае разнявольванне Еўропы. Грунвальд паставіў кропку на сярэднявеччы. У тагачаснай Беларусі пачалося фарміраванне шляхецкага стану, шмат якія гарады атрымалі Магдэбургскае права. Нават залежнасць ад Польшчы паменшылася.

У савецкі час памяць пра Грунвальд стараліся сцерці, каб беларускі народ не ўсведамляў сваю адметнасць у гісторыі. Горка, што мы і цяпер адзіная краіна, з тых, што выстаўлялі палкі на Грунвальд, дзе памяць пра перамогу продкаў не ўшанавана ні помнікамі, ні ў назвах вуліц.

Адзначаючы 590-я ўгодкі Грунвальда, трэба верыць, што прыйдзе час, калі адпаведным ганаровым чынам будзе ўшанаваная і памяць продкаў, і вернецца на сваё заслужанае месца Пагоня. Гэта запавет тых, хто 6 стагоддзяў таму даказалі права Беларусі на незалежнасць.



*З "Чырвонай нкігі Беларусі"*

## ЗВАНОЧАК ПЕРСІКАЛІСТЫ



Званочак – адзін з саёмых любімых у народзе кветак. Асабліва гэты – персікалісты. Яго буйныя кветкі класічнай званочкавай формы быццам адліты з металу, скаланеш у руках – звіняць. Цвіце ў чэрвені-ліпені. Сустракаецца ў змешаных і лісцёвых лясах, хмызняках, на палянах. Буйныя блакітна-бэзавыя кветкі на тонкіх высокіх сцяблінках вельмі прыкметныя і прывабныя. Яны і пакутуюць з-за сваёй прывабнасці і прыгажосці. Колькасць віду імкліва скарачаецца.

Званочак персікалісты - шматгадовая расліна. Размнажаецца насеннем. Мае шмат садовых форм. А ў прыродзе яго неабходна ахоўваць, каб не знік зусім. Але не упусціце магчымасць выйсці на луг ці ў лес, каб паслухаць цудоўны гімн маладому лету, які вызваньваюць званочкі пад перабежкамі ветру. Я ўпэўнена, што сярод вас знойдуцца рамантыкі, якія пацвердзяць: звіняць лясныя і

## ЖЫЛІ Ў ЗЯМЛЯНКАХ

*Гэта было...*

Адыходзіць XX век, які даў шмат навукова-тэхнічных дасягненняў: радыё, тэлебачанне, тэлефон, камп'ютэр і іншае. Тым, хто прывык карыстацца ўсімі гэтымі дасягненнямі, цяжка ўявіць, што ўсяго толькі паўвека таму людзям ў нашай краіне даводзілася жыць у вельмі цяжкіх умовах, галадзе і холадзе.

Фронт прайшоў па Беларусі двойчы: спачатку на ўсход, потым на захад. Асабліва жорсткія баі ішлі ўздоўж Заходняй Дзвіны падчас адступлення немцаў. Большасць дамоў была спалена ці разабрана для пабудовы ўмацаванняў. А як жа жылі людзі? Ад сваіх бацькоў я ведала, што наша хата ў час вайны ацалела і ў ёй мясціліся каля дзесятка сем'яў аднавяскоўцаў, якіх выселілі з цэнра вёскі, дзе размясціўся нямецкі гарнізон. Цесната страшная, у сем'ях жа шмат дзяцей, але быў дах над галавой, была печка. А ў зямлянках і такой "раскошы" не было. Таму, калі Тамара Герасімаўна Капціловіч пачала аднойчы ўспамінаць, што яны пасля вайны амаль пяць гадоў жылі ў зямлянцы, мне было вельмі цікава слухаць яе. Можаце вы ўявіць, як перазімаваць з дзецьмі без хаты?

Земляное жытло будавалі, хто як змог. Мужчын у вёсках тады амаль не было, будавалі жанчыны з дапамогай старых і дзяцей. Месца выбіралі на схіле, ці на пагорку, каб не падыходзіла вадой. У вёсцы Чарнагосце, куды прыбіліся бацькі Тамары Герасімаўны , уцякаючы ад вайны, пасля вызвалення засталася толькі адна хатка. Лесу побач не было, як і не было дазволу яго браць для будаўніцтва дамоў. На схіле глыбокага рова выкапалі пляцоўку, з трох бакоў земляныя сцены абставілі алешнікам, абмазалі глінай. Чацвёртая сцяна была хоць і невысокая, [illegible] не земляная і мела нават адно невялічкае акенца. Дах таксама з драўлян[illegible] насцілу, які накрыты слоем саломы і зямлі.

Спалі на палацях і лаўках, з мэблі - адзін сундук з-пад нямецкіх снарадаў. Ежу варылі і саграваліся каля невялікай жалезнай печачкі. Якая гэта была ежа – успамінаць страшна, радаваліся першай вясновай траўцы, якой можна было хоць крыху прытупіць заўсёдны голад. Толькі ў сорак дзевятым годзе далі дазвол браць лес для будаўніцтва. Вёска пачала ўздымацца, пераходзіць з зямлянак у новыя дамы, якія здаваліся гмахамі і палацамі, пасля цёмных і цесных зямлянак. Цяжка было, але ўсе верылі, што наступяць лепшыя часы, прыйдзе лепшае жыццё. Як нам сёння не хапае такой веры...

***В. Гракун***

## РОЛЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

*Працяг, пачатак на 4 старонцы*

Сябры ТБМ лічаць, што ў Закон аб выбарах павінны быць унесены патрабаванні:

1. Кожны кандыдат абавязаны ведаць мову тытульнай нацыі і карыстацца ею.
2. Усе перадвыбарныя матэрыялы павінны друкавацца па-беларуску.
3. Парламент Беларусі павінен называцца так, як ён называўся спрадвеку – Сойм, а не Палата ці Савет.

Карыстаючыся толькі рускай мовай незалежнасці Беларусі дасягнуць нельга. Праекты аб'яднання з Расіяй, адмена нацыянальнай сімволікі, гвалтоўная ліквідацы беларускай школы – гэта злачынства супраць тых 86% грамадзян, якія падтрымліваюць беларускасць.

Шырокае ўжыванне беларускай мовы – гэта сімвал будучай заможнай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі. Толькі пашырэнне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага і палітычнага жыцця дапаможа вырвацца з абдымкаў "суседняга мядзьведзя" і вярнуцца ў Еўрапейскі Дом.

***Алег Трусаў, з выступлення на 4 кангрэсе дэмсілаў.***

### ЖАЛОБНАЯ ДАТА

25 ліпеня – у гадавіну смерці Уладзіміра Караткевіча сябры, родныя, калегі і тыя, хто любіць творчасць пісьменніка, прыйшлі на Маскоўскія могілкі ў Мінску, каб ушанаваць яго памяць.

Караткевіч першы ўзараў тыя барозны нашай гістарычнай памяці, па якіх мы зараз ідзём, заклаў цагліну, з якой расце цэлы гмах. Таму яго творчасць будзе жыць, пакуль жывуць у свеце беларусы.

У Оршы, на радзіме пісьменніка, ствараецца яго музей, які плануецца адкрыць да 70-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Сямёнавіча 26 лістапада.

25 ліпеня – дзень, які забраў у нас яшчэ аднаго Уладзіміра Сямёнавіча –Высоцкага. Чым далей адыходзяць у гісторыю гэтыя людзі, тым больш значнай ўспрымаецца іх творчасць. Сапраўды, "вялікае бачыцца на адлегласці".

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы ". № 12, ліпень 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Георгій Станкевіч ,Уладзімір Асокін. Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла "Фонда імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна. Тэл. **2 – 26 – 93**, 211 350, Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21.